# Самапомач — Samapomač

Беларуская Коопэратыўна-Гаспадарчая Часопісь

| Год III. | Вільня, Лістапад 1934 г. | № 11. |
| --- | --- | --- |

*Хай злыдні над намі,*
*скрыпочуць зубамі*
*Любі сваю ніву, свой*
*край,*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй,*
*засявай!..*
*ЯНКА КУПАЛА.*



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапомачу.*

*Джордж РЭССЭЛЬ*
*(Ірляндзец).*



ЗЬМЕСТ №11 (28).



## Ceny ŭ Vilni

**Z bažžavoje. 19.XI.34 h.**

*Ceny pry kupli-prodažy za 100 kilo*:

| | |
|---|---|
| Pšanica, I standartovaja | —17,75 |
| Muka pšaničnaja | 18.75 – 28.75 |
| Muka, žytniaja 55% | —23.50 |
| Muka žytniaja 65% | —20.00 |
| Muka žytniaja sitkovaja | —16.00 |
| Muka žytniaja razovaja | —15.75 |
| Siemia lnianoje | 44.50 – 45.00 |

*Ceny orjentacyjnyja* (z papiarednich dzion).

| | |
|---|---|
| Žyta stand. | 13,00—14,00 |
| Pšanica, II stand. | 16.75—17 00 |
| Avios standartovy | 12,75—13,75 |
| Jačmień, stand. | 13,50—15.00 |
| Votruby žytnija | 8 50— 8.75 |
| Votruby pšaničnyja | 10,00—10,50 |
| Hreččyna | 13.50 – 15.50 |
| Haroch šery (pialuška) | 20.00—21.00 |
| Vyka | 18.00—19.00 |
| Łubin sini | 7.00— 7.00 |
| Bulba stałovaja (vahonami) | 3.00— 3.50 |
| Siena | 6.50— 7 00 |
| Sałoma | 3.80— 4.00 |

| | |
|---|---|
| Makuch lanny | —16 00 |
| Makuch y repaku | —14.00 |

**Małočnaje, 15.XI.34.**

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, za kilo ŭ hurcie | 2,80 – 2 90 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 3.20 |
| Masła stałovaje za kilo ŭ hurcie | 2.60—2.70 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 3.00 |
| Masła solenaje za kilo ŭ hurcie | — |
| „ „ „ „ u detalu | — |
| Syr navahradzki, za kilo ŭ hurcie | — |
| „ „ „ „ „ u detalu | — |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie | 1.70 – 2.30 |
| „ „ „ „ u detalu | 2.00—2.80 |
| Jajki, kapa | 5.40—6.60 |
| „ štuka | 10—14 hr. |

**Miasnoje 13.XI.34.**

*Za 1 kilo bitaj vahi.*

| | |
|---|---|
| Vałovina, cełyja štuki, | 0.65—0.75 |
| „ zady | 0.70—0.80 |
| „ pierady (košer) | 0.80—1.00 |
| Baranina | 0.70 – 0.75 |
| Cialacina, | 0.65 – 0.80 |
| Svinina | 0.90—0.95 |
| Skury bydlačyja, syryja, za kilo | 1.10 |
| Skury cialačyja, za štuku | 3.75—4.00 |
| Aŭčynki aviečyja, za štuku | 3.75—4.00 |


# „Самапомач"

Часопісь выходзіць раз у месяц.

## Падпісная плата аднаго экзэмпляра каштуе:

На год . . . . . . . 3.— зл.
На паўгода . . . . . 1.75 „
На 3 месяцы . . . . . 1.20 „

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана асобнага нумару 40 грашоў.

Цана абвестак паводле ўмовы.

Коопэратывы, гурткі і прыватныя асобы, што выпісваюць на адзін адрэс найменш 10 экзэмпляраў „Самапомачы" (камплект), плацяць за экзэмпляр толькі **1.20** зл. за 10 экз. 12 зл.

Грошы на «Самапомач» пасылаць на чэкавае контоінж. Клімовіча у П.К О. Nr. 180.485, а ўсякія пісьмы — на адрэс:

Redakcyja „Samapomač", Vilnia, Połackaja vul. 4 10
(Wilno, Połocka 4—10).

Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 9-ай да 11-ай гадз. дня.

Samapomač

BIEŁARUSKAJA KOOPERATYŬNA-HASPADARČAJA ČASOPIŚ.

Adres: VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 4—10.

Самапомач

| Hod III. | Vilnia, Listapad 1934 h. | Nr 11 (28). |
|---|---|---|

## KOOPERATYŬNYJA NAVINY

**Voŭčyja jahady.** Kali praviedzieny siolietniaj viasnoj polski kooperatyŭny zakon nazvać kvietkaj, to toje, na što ciapier zanosicca ŭ kooperatyŭnym žyćci Polščy, treba nazvać voŭčymi jahadami. Horkimi byli kvietki, ale „jahadki" abiacajuć jašče bolš. Vymoŭnym dokazam hetaha jość apošniaje pasiedžańnie Kooperatyŭnaj Rady z dnia 31 min. m-ca i niekatoryja fakty, jakija heta pasiedžańnie papieradžali.

Nas tut cikavić pierad usim stasavańnie novaha kooperatyŭnaha zakonu da kooperacyi „inarodcaŭ" — niapolskaj.

Voś-ža Kooperatyŭnaja Rada, a ŭłaściva jejny staršynia, jaki źjaŭlajecca zvyčajnym čynoŭnikam polskaha ministerstva Skarbu, piśmom z dnia 16.X zažadaŭ ad Revizyjnaha Sajuzu Ukrainskich Kooperatyvaŭ (RSUK) u Lvovie źmieny jaho statutu miž inšym u tym sensie, kab Sajuz: 1. ahraničyŭ miežy svaje dziejnaści tolki na try halickija vajavodztvy, 2. zroksia kooperatyvaŭ budaŭlanych, čynoŭnicka-kredytovych i rabotnickich, 3. dyrekcyju Sajuzu, jakaja reprezentuje Sajuz i ŭsiu ukrainskuju kooperacyju navonki, maje zaćviardžać toj-ža staršynia Kooper. Rady i h. p.—Kudy ŭsio heta kirujecca, zrazumieła kožnamu biez pajaśnieńniaŭ; asabliva, kali pryniać pad uvahu, što na ŭspomnienym pasiedžańni Kooper. Rady pradstaŭniki ukr. kooperacyi daviedalisia jšče ab dalšych „jahadkach": padčas kali ukraincam zvužvajecca abšar dziejnaści, dyk pobač i „ŭ piku" ukraincam dziejučamu „Sajuzu Ruskich Kooperatyvaŭ" heta pole ŭradavyja čyńniki mielisia pakinuć volnym, a ŭ dadatak na tym-ža abšary utvaryć jašče dva novyja sajuzy: pry Lvoŭskaj Ziemlarobskaj Pałacie i na Vałynii, dzie pačaŭ užo „pracavać" niejki Jakim Vałašynoŭski. I heta ŭ paru, kali ŭsia reforma maje jšci da „konsolidacyi kooperacyi". —Nad usimi hetymi i inšymi punktami naradžvałasia dn. 31.X. Kooper. Rada, na jakoj suproć niapolskaj kooperacyi havaryli i inšyja pradstaŭniki (Zelverovič). Pradstaŭnik kooperacyi ukrainskaj, senatar inž. J. Pavłykovškyj dakazaŭ pry hetym biespadstaŭnaść zakidaŭ proci ukrainskaj kooperacyi i što niekatoryja naskoki na hetu-ž kooperacyju nia majuć navat praŭnych asnovaŭ u kooperatyŭnym zakonie (napr. zaćvierdžańnie dyrekcyi kooper. sajuzu) i damahaŭsia, kab Rada pakinuła RSUK'u dahetulašni abšar dziejnaści (usie zach.-ukr. ziemli) va ŭsich vidach kooperacyi. Charakterna dla pradstaŭnikoŭ polskaj kooperacyi, što anivodzin z ich nie padaŭ svajho hołasu za damahańniami kooperataraŭ ukrainskich: musić dumajuć kožny za siabie, što pažyviacca čužym dabrom, kali pryjduć na ukrainski abšar dziejnaści. Nam zdajecca, što hłybaka mylajucca...

Na hetym ža pasiedžańni Kooper. Rady pastanoŭlena złučyć abodva polskija sajuzy kooperacyi ziemlarobskaj, h. zv. „Zjednoczenie" i „Unju", ŭ adzin ahulny sajuz i dali času na heta da 1.VII.35 h. Spravu Revizyjnych Sajuzaŭ pry Zieml. Pałacie ŭ Lvovie i takoha-ž Sajuzu na Vałyni Kooper. Rada adkinuła. Prava revizii dahetulašnim Sajuzam pastanoŭlena pradoŭžyć da 31 sakavika 35 h. (vyhasała heta prava ŭžo z dniom 9 listapada siol.).

Heta pastanovy Kooperatyŭnaj Rady, jakaja nia jość orhanam pastanaŭlajučym, a tolki daradčym pry ministerstvie Skarbu: dziela hetaha apošniaje słova ŭ hetaj spravie naleža da ministra Skarbu. Pavodle apošnich viestak słova heta ŭžo skazana i šmat jakim Sajuzam žyćcio skaročana jašče bolš. RSUK maje času jšče na dahetulašnimi abšary da novaha 1935 hodu, na abšary-ž troch halickich vajavodztvaŭ— da 31.III.1935 h.

**Stan kooperacyi ŭ Polščy.** Pavodle apošnich padličeńniaŭ, stan kooperacyi ŭ Polščy na dzień 31.12.33 h. ŭ paasobnych vajavodztvach pradstaŭlaŭsia hetak (ličby ŭ dužkach aznačajuć kooperatyvy nienaležačyja da nijakaha sajuzu abo hetak zvanyja „dzikija"): u Lvoŭskim — 3.698(1740), u Tarnopalskim— 2.265(866), u Stanisłavaŭskim — 1.872(797), u Lublinskim — 1.688(964), u Krakaŭskim — 1.506(730) — u Vałynskim — 1.501(789), u Kieleckim — 1.472(809), u Varšaŭskim — 1.406(680), u Paznaŭskim — 1.277(395), u Varšavie-horadzie — 1.075(849), u Łodzkim — 1.035(528), u *Biełastockim — 853(426)*, u Pamorskim — 730(252), u *Vilenskim—727(398)*, u Ślonskim— 642(266), u *Navahradzkim — 553(292)*, i ŭ *Paleskim—434(201)*. Usiaho kooperatyvaŭ u aznačany dzień u Polščy było 22.734, z čaho sajuznych tolki 11.762 i niesajuznych abo „dzikich"— 10.972. — Charakterna pry hetym adznačyć, što pracentova najbolš „dzikich" kooperatyvaŭ mieła stalica-Varšava.



# Сельская гаспадарка.

## Пашу трэба аблічыць наперад.

Восень сёлетняя зацягнулася; хто ведае' якая будзе вясна. У кожным разе год сёлетні ня звычайны і таму трэба рахавацца з усім найгоршым, каб пасьля ня быць заскочанаму, непрыгатаванаму. Датыча гэта перад усім запасаў пашы. Кожны з собскае практыкі хіба ведае, як неаглядна ўвосені марнуецца дабро, якое вясной гэтак прыдалося-б, але ўжо бывае позна. Таму зразу ўвосені трэба абрахаваць свае патрэбы пашы, пасьля абрахаваць самыя запасы гэтай пашы і калі яе не хапае, дык цяпер ужо або дакупіць пашы, або прадаць лішнюю жывёлу. Той, хто гэтага ня зробіць, траціць два разы: раз, што недакормлівае ўсю жывёлу, а далей — лішнюю штуку ўсё роўна вясной бывае змушаны прадаць за бясцэн. Ня было-б гэтага, калі б такі гаспадар аблічыў свае запасы ў пару і пасьля вырахаванай порцыі сьцісла трымаўся. А апрача таго, сягоньня аплачваецца толькі такая гадоўля, дзе жывёла не галадае, а корміцца ўдоваль.

А цяпер пяройдзем проста да способу аблічаньня пашы на зіму і цэлы гаспадарскі год, маючы пры гэтым наўвеце перад усім дойныя каровы і наагул скаціну.

У нашых беларускіх кліматычных варунках пара зімовага кармленьня жывёлы трывае ня менш 7-мёх месяцаў (210 дзён). Падставай зімовай пашы нашай скаціны ёсьць салома, мякіна, па часьці сена, канюшына, сэрадэля; такія малакагонныя пашы, як кармовыя буракі, морхва, на вялікі жаль, яшчэ ў нас вельмі рэдкія. Найцэньнейшай пашай ёсьць добрае сена, канюшына, сэрадэля, бо яны, акрамя самых спажыўных сучастак, маюць яшчэ і мінэральныя сучасткі, патрэбныя жывёле на тварэньне касьцяка. Дзеля таго ў тых гаспадарках, дзе кароў кормяць акопнінамі (буракамі, жмыхамі, морхвай), трэба да пашы йшчэ дадаваць і шлямаваную крэйду, якая хоць ня можа цэлком замяніць мінэральных сучастак самога сена, то аднак у значнай меры памагае запоўніць гэты недастатак.

Сярэдняя дзенная порцыя для нашых дробных кароў (350—400 кілёграмы жывой вагі) вымагае 7 кілё сухой пашы, з чаго палову трэба дадаць у форме сена. Знача, калі на дзень і штуку трэба, скажам, 4 кілё сена, дык на ўсю пару зімавога кармленьня трэба 840 (4×210) кілё сена. Рэшту дадаецца ў форме саломы, якой у дадзеным выпадку трэба было-б мець 630 (3×210) кілё; дадаўшы да гэтага мноства саломы патрэбнай на падсьцілку, трэба яе мець на цэлы год для аднэй штукі ня менш 25 мэтр. цэнтнараў. Пытаньне падсьцілкі вельмі важнае; раз дзеля гыгіенічнага ўтрыманьня скаціны, а пасьля— каб вырабіць па магчымасьці больш гною, бо сам кал гэта йшчэ ня гной

З акопнінаў вельмі важны для дойных кароў кармовыя буракі, якіх на дзень рахуецца па 20 кілё, а на 210 дзён — 4200 кілё. Бульба як малакагонная паша цэніцца менш і даюць яе на палову менш, звычайна

---

## Jak hadavać trusoŭ.

(*Dakančeńnie*).

**Vykarystyvańnie trusoŭ.** Z trusa možna mieć miasa, aŭčynku i—nia z kožnaha—voŭnu. Tak ci hetak trusa pierad usim treba zabić. Robicca heta prymityŭnym jašče sposabam. Biaruć trusa za zadniuju nahu levaj rukoj, a pravaj udarajuć mocna za vušami, u toje miesca, dzie hałava łučycca z pieršym sustavam chrybietnicy.—Inšy sposab palahaje na tym, što trusu raptam pierałomlivajem chrybiebnicu; jašče inšyja — prytrymlivajuć trusa hałavoj uvierch i ŭ chrapy nalivajuć śpirtu. U kožnym vypadku śmierć nastupaje mamentalna.

Z uvahi na aŭčynku zabivać trusa treba zimoj, bo tady heta aučynka byvaje najlepšaj.

Z tak ci hetak zabitaha trusa treba nasampierš spuścić kroŭ, a paśla pryniacca za zdymańnie aŭčynki. Lišnie dadavać, što ad sposabu zdymańnia aŭčynki ŭ značnaj miery zaleža jejnaja jakaść. Kali niechta zabivaje trusa na toje, kab miasa pradać, dyk musić dobra viedać vymahańni rynku; pierad usim-ža pavinien nie čakajučy vykinuć trybuchi, a zdymajučy aŭčynku, pakinuć „nieabielenuju“ adnu nahu (pry samaj łapcy), kab kožny moh pierakanacca, što kuplaje zabitaha trusa, a nie jakohaści tam... kata.

*Miasa* trusoŭ vielmi cennaje dziela taho, što maje ŭ sabie vialiki pracent białka (32.4%) i mineralnych solaŭ (4.72%); mnostva tukaŭ (kłustaści) — siaredniaje i vielmi mała vady (61.19). Dziela hetaha miasa trusoŭ viemi lohka stravimaje dla ludziej chvorych, navat bolš stravimaje, čymsia miasa kurynaje. Z hetaje pryčyny trusovaje miasa maje vialiki popyt u balnicach i sanatoryjach, a ŭ apošnim časie heta-ž miasa maje vialiki zbyt u fermach, što hadujuć hetak zvanych futerkovych źviarat (lisic, kunaŭ, skunsaŭ i inš.).

*Aŭčynki* źmatuju možna vyrablać damovym sposabam i to abo zrazu, na śvieža, abo spačatku jaje raśpiatuju na drocie (poŭściaj usiaredzinu) ci na došcy zasučyć i vyrablać paśla niekalki aŭčynak za raz. Skurku trusasamca, asabliva staršaha, na aŭčynku vyrablać nia možna; lepš vyrabić jaje na skurku, z ka-

аднак ня больш 8 кілё ў дзень (8×210=1680 кілё). Кормячы кароў акопнінамі, ашчаджаем салому, замест якой даём мякіну, асабліва сэрадэльную, а яшчэ лепш — самую сэрэдэлю. Добра рахуючы і сягоньня йшчэ аплачваецца дакармліваць каровы вотрубамі; але каровы мусяць быць здаровыя і наагул здольныя да малочнай прадукцыі. Вырахавана, што тым каровам, якія даюць больш як па 4 літры малака ў дзень, аплаціцца дадатак 300 грамаў мешанкі на кожны літр панад гэтыя чатыры літры. Мешанка складаецца з 10 дэка макуху і 20 дэка вотрубаў. Такім чынам карова, якая дае ў дзень напр. 7 літраў малака, даставала-б за тры літры малака дадатак 30×3=90 дэка. Гэта на дзень, а на 210 дзён — 190 кілё. Гэта мусіць аплаціцца.

Ялаўкі цельныя лічацца пры кармленьні як дарослыя каровы. С. Я—віч.

# Чаму гніе бульба.

Сёлетняя бульба вельмі нятрывалкая. У некаторых ваколіцах так гніе, што сяляне не пасьпяваюць яе перабіраць. Страта ўжо выносіць 50 а то і 80 проц. А што-ж будзе з зімаваньнем.

Прычына гэтага сёлетняя пагода. Засуха прыпыніла ўсходжаньне, прымаразкі зьнішчылі маладыя расьлінкі так, што яны мусілі на нова адрастаць. Гэта скараціла ўласьцівы час росту бульбы прынамся на месяц, а то і больш. Таму гэта бульба ня ўся належна высьпела, а як такая і менш трывалкая. Частыя і вялікія дажджы сталіся прычынай таго, што бульба мае ў сабе больш вады як звычайна, мякіш зложаны з слабшых вадзяністых клетак і тканак, крахмал і бялкі хутка раскладаюцца. Ужо ад таго, што бульба ня зусім сьпелая, яна і менш трывалкая. Такая бульба цяжка перахоўвуецца таму, што ў ёй не закончана дасьпяваньне. Яна сільна дыхае, таму вытварае шмат пары, якая на верхніх пластох скропліваецца, бульба макрэе. Пры дыханьні акрамя пары вытворваецца йшчэ шмат і цяпла, ад каторага бульба парыцца, а ад гэтага душыцца і адмірае. На гэткую бульбу накідваюцца рознага роду бактэрыі, ад каторых бульба і гніе.

Акрамя таго сёлетняя пагода спрыяла разьвіцьцю розных расьлінных хвароб, якія на слабых і вадзяністых тканках лягчэй прымаліся і размнажаліся.

Бульбу гніе або ўжо на полі або ў ямах ды скляпох (паграбох). Найбольш спатыкаюцца такія хваробы:

**1 Мокрая бульбяная гніль.** Пачынаецца ўжо на полі. Сапсаваная бульба ў нутры жоўтая, кашаватая, расьцісьненая прыкра сьмярдзіць. На паветры гэта маса рудзее і чарнее. Хвароба гэта значная ўжо на полі, часам нават спрычыняе значныя страты. Больш аднак нападае ў ямах і скляпох, асабліва пры няправільным перахоўваньні. Гніль пашыраецца вельмі скора з сапсутых бульбін на здаровую. Церпяць ад яе перад усім сарты бульбы раньняй, а нават і познай, але мала адпорнай.

Каб усьцерагчыся, трэба бульбу старанна перабраць і адпаведна ў суху, найлепш пры тэмпэратуры 2—6°Ц. і ня вышэй 8°Ц. перахоўваць. Сарты бульбы да саджэньня падбіраць толькі адпорныя і здаровыя. Калі зямля багатая на паташ і фосфар, тады бульба бывае больш адпорная.

---

toraj paśla vyrablajecca dalikatny, pierad usim žanočy abutak. Tolki hetak vyrabić skurki damovym sposabam nia možna, jaje treba dać vyrabić majstru-specyjalistu; heta apłacicca.

Na śvieža vyrablajecca aŭčynka hetak: źniatuju aŭčynku nia sušać, ale razrezaŭšy prybivajuć poŭściaj uniz da hładka vyheblavanaj doški (60×80 cm) i ačyščajuć ad pryrosšaha da jaje miasa i sała. Kali aŭčynka praznačanaja da vyrabu była prad tym vysušana, dyk jaje treba nasampierš ułažyć na 24 hadziny ŭ vadu; pa 12 hadzinach vadu hetu treba źmianić. U mižčasie pryhataŭlajecca rastvor kuchonnaj soli i hałunu — na 1 litr kipiačaj vady dajeca 1/2 funta hałunu i 1/4 funta soli. Kali miešanina zavarycca, tady namočyvajecca ŭ joj čystaja šmatka, katoraj paśla i nacirajecca raśpiataja na došcy aŭčynka. Hetak naciortuju aŭčynku paśla prasušvajuć u suchim — ale nie kala piečy i nie na soncy! — pravieŭnym miescy. Na druhi dzień hetkaje nacirańnie paŭtarajecca. I tak až pakul aŭčynka nie źbialeje, što zdarajecca zvyčajna praz 5—7 dzion. Paśla hetaha aŭčynka vysušvajecca dakładna, zdymajecca z doški i rukami raściahvajecca ŭva ŭsie baki, komkajecca, kab stałasia miakkaj. Kali-ž mima ŭsiaho hetaha aŭčynka miakkaj nia robicca i ŭ rukach šuścić, tady jaje nacirajuć zavaranaj raščynaj (klajsteram) z žytniaj muki. Hetkuju raščynu ŭstaŭlajuć prad tym u ciopłuju pieč, kab skvaśnieła i tady joj nacirajuć aŭčynku taŭstym słojem. Dzień-dva spuściŭšy raščynu hetu z aŭčynki zdymajuć, i atrymoŭvajecca aŭčynka ŭžo hatovaja. Zamiest žytniaj raščyny, časta ŭžyvajuć alivu ci rycynovy alej, katorym nacirajecca hetak šuściačaja aŭčynka; naturalna, hetki alej ci rycynu treba kuplać, a raščynu možna zrabić u chacie i ŭ hetym jaje piaršynstvo.

Heta što datyča ŭnutranaj starany aŭčynki. Kab nadać patrebny połysk aŭčynnaj poŭści i vybrać z jaje kłustaść, u poŭść hetu ŭcirajecca haračy piasok, katory paśla vytrepyvajecca, a sama poŭść vyhładžyvajecca ščotkaj.

Heta sposab najčaściej užyvany. Ale jošć jašče sposaby inšyja. Zamiest kab aŭčynku rastvoram soli i hałunu nacirać, aŭčynku hetu ŭ nazvanym rastvory (3 litry vady, funt hałunu

Сёлета гніль асабліва даецца ў знакі нашым гаспадаром.

**2. Падгніваньне бульбоўніку**. У м-цы ліпні і жніўні бульбоўнік пры самай зямлі пачынае чарнець і згніваць так,што яго лёгка выцягнуць з зямлі. Хвароба разьвіваецца даволі хутка, лісты рудзеюць, скручываюцца і сохнуць.

Заражэньне прыходзіць з садзьбою або з самай ральлі, у каторай заражаюцца перад усім бульбіны пакалечаныя і парэзаныя. Спрыяе хваробе мокрая парная пагода. Хвароба гэта кончыцца звычайна мокраю гнільлю.

Каб усьцерагчыся хваробы, трэба дапільноўваць, каб бульба ў капцах не сагравалася, бо зараз-жа пачне гніць. Садзьбу трэба дакладна перабіраць і праз 1 - 1 з палоЕай гадзіны мачыць ў 0,1 проц. растворы формаліны. Хваробе спрыяе сільнае гнаеньне хляўным гноем. Гэта самая хвароба нападае боб, морхву і агуркі, таму ня можна пасьля іх садзіць бульбу.

**3. Пругаватасьць бульбы**. Калі разрэзаць бульбу ўздоўж і пакінуць на адну — дзьве гадзіны на сонцы, тады на бульбе заражанай пругаватасьцю, каля самых берагоў зьявіцца жоўтая палоска. Пры сільнай хваробе пажаўцее ўвесь мякіш. Гэткая бульба зьверху здаровая, але перахоўвуецца кепска. Зімой загнівае.

Бульбу прад саджэньнем трэба перапрабаваць і западозранай не садзіць. Яшчэ лепш зьмяніць сусім садзьбу, бяручы сарты адпорныя, невадзяністыя, з грубшай шалупінай, добра гнаіць паташом (каініт, паташавая соль).

**4. Бульбяная плесьня**. Паяўляецца спачатку на лістох, пераходзіць на бульбоўнік, а стуль на бульбу. Спачатку на лістох выглядае як цёмна-рудыя аж чорныя плямы, з сівым налётам па берагох. Бульбоўнік чарнее і прад часам сохне. Сівы налёт на лістох і на каліве — гэта насеньне плесьні. Яно ападае на зямлю, дастаецца ў вочкі бульбы, прарастае і заражае цэлую бульбіну, на якой спачатку пад шалупінай зьяўляюцца рудыя плямы, а пасьля дастаюцца ў сярэдзіну бульбы. І гэта хвароба пераходзіць у мокрую гніль. Сёлета плесьня на бульбе так-жа вельмі пашырана.

Здаровая садзьба ня шмат тут памагае; яе трэба акрамя таго мачыць пра 24 гадзіны ў 2 прац. растворы бардоскай цечы. Нападзены плесьню бульбоўнік спырсківаюць такжа $1^{1}/_{2}$% растворам тэй-жа цечы, як толькі хвароба пакажыцца. Не садзіць на сьвежым гнаі. Ужываць толькі сарты адпорныя.

Як відаць, трэба больш зьвярнуць увагу на падбор садзьбы (насеньня) і тады менш будзе хлопату. Таксама і пры перахоўваньні ня можна ня слухаць добрых радаў. Можа гэтых некалькі парадаў сягоньня, калі гаспадар мае з бульбаю найбольш хлопату, хваціць, каб пазнаўшы свае недацяжкі, стараўся іх у будучыні абмінаць, ды каб пазнаў прычыны зла.

Цяпер-жа не астаецца нічога іншага, як гніючую бульбу старанна перабіраць. Жывёле даваць бульбу толькі добра вымытую і незавялікімі порцыямі, каб не пашкодзіла.

*„Сіль. Госп.“.* **Інж. Г. Ж.**



i paŭfunta soli), zahatavanym i astudžanym, mačajuć na 2 dni, časta pieravaračvajučy. Pa hetym časie aŭčynki vybirajucca, sam rastvor krychu padahravajecca i ŭ jaho aŭčynki ŭkładajucca nanova. Pa dvuch dniach aŭčynki ŭznoŭ vybirajucca, vyžymajecca z ich vada, jak z chuścia i raźviešvajucca ŭ pravieŭnym suchim miescy. Kali raźviešanyja hetak aŭčynki abčachnuć (absochnuć), ale nie na sucha, ich vyciahvajuć rukami, abo naciahvajuć spodniaj (biaz poŭšci) staranoj ab kant stała ci niejkaj doški. Paśla hetyja aŭčynki sušacca dakładna, nacirajucca raščynaj z žytniaj muki, abo alivaj, a apoški tłustaści vybirajuć nacirańniem benzynaj ci eteram. Sama poŭść vyrablajecca haračym piaskom, jak vyžej.

*Voŭna* z trusa byvaje vielmi elastyčnaj i ciopłaj. Robiacca z jaje filcovyja kapialušy, abutak i ŭsiakija het. zvanyja trykotažnyja vyraby (šali, chustki, šapki i h. p.). Samuju voŭnu možna atrymać abo z trusa žyvoha, abo z zabitaha. Z žyvoha trusa, pierad usim z trusa rasy anhorskaj, voŭna raz na tydzień vyčesyvajecca; choć možna jaje taksama i stryhčy. Kab dastać voŭnu z trusa zabitaha, treba aŭčynku na dva dni pałažyć u rastvor sody. — Z adnaje štuki trusa atrymoŭvujuć u hod 20—40 dk ($^{1}/_{2}$—1 funt) voŭny.

**Pamiaščeńnie trusoŭ.** Trusy ŭ dzikim stanie hadavalisia ŭ norach, katoryja jany sami sabie pryhataŭlali. Damovaja hadoŭla trusoŭ vymahaje, kab hniozdy byli pa mahčymaści prastornyja, pravieŭnyja ale biez praciahu, suchija, śvietłyja i dobra zabiaśpiečanyja ad usialakich škodnikaŭ, pierad usim ad pacukoŭ. Choładu trusy nia vielmi bajacca i ŭ adkrytych hniozdach, zabiaśpiečanych tolki sałamianaj mataj, mohuć lohka pieratryvać maroz i 30°C. Hniozdy treba trymać čysta, bo jnakš nadta časta i lohka moža ŭ hniazdo zabracca chvaroba i narabić u hadoŭli vialikija škody. Dziela taho hniozdy trusovy treba prynamsi dvojčy ŭ hod bialić vapnaj (najlepš źmiašanaj z kreolinaj), na 100 častak vapiennaha małaka 2 častki kreoliny) i ŭletku prynamsia raz u tydzień, a ŭzimku — raz u dva tydni źmianiać padścilku.

*V. Ach—vič.*

# Матыліца.

(*Diastomatosa*).

Матыліца гэта хвароба перад усім авечак, хоць нападае яна і на каровы, козы, сабакі, каты, трусы, а нават і на чалавека. Найнебясьпечнейшая яна аднак у авечкі, асабліва ў маладой.

**Істота хваробы.** Жывёла заражаная зародкам матыліцы, праз 3—6 тыдняў ужо становіцца слабай, ня есьць, воўна траціць лоск і лёгка выпадае, а на целе, асабліва на брусе, на вочных павеках, пад горлам зьяўляецца пухліна. З вачэй выцякае мазістая цеча, якая на вачах і засыхае; нястраўнасьць чаргуецца з затрыманьнем, Жывёла нялечаная або і лечаная але позна, блізу заўсягды гіне.

Прычынай хваробы ёсьць 1—3 см. доўгі плоскі ліставідны рабак, які дастаецца ў сярэдзіну жывёлы разам з заражанай пашай; жоўцяводам дастаецца ён пасьля ў вантробу, дзе і асядае, пустошачы сваю ахвяру. Колер рабака матыліцы бывае брудна-жоўты аж зялёна-руды, Рабак матыліцы, перш чым пачаць сваю руйнуючую дзейнасьць, праходзе даволі доўгую дарогу, каторую трэба ведаць, калі хацець удачна з ім вясьці барацьбу. А гэта трэба, бо матыліца ў нас бадай найнебясьпечнейшы вораг авечак.

Вось-жа першапачатны зародак матыліцы выходзіць з хворай жывёлы, разам з ейным калам, у форме маленькага яечка. Па 3—6 тыднях, залежна ад цяплыні і вогкасьці, з гэтага яечка выклёўваецца першы жывы зародак матыліцы, г. зв. *miracidium*, каторы на галаве бывае азброены асаблівым сысаком, пры помачы якога дастаецца ў цела балотнага смаўжа (сьлімака) і там дасьпявае ў шматлікія *cerkarii.* Вось гэтыя цэркарыі пакідаючы смаўжа і зьяўляюцца ўжо тымі заразкамі, каторыя, завярнуўшыся ў панцыр, чакаюць на балотных сьцяблёх на свае ахвяры. Заўважылі пры гэтым людзі, што найбольш заразкаў матыліцы асядаюць на самых нізкіх часьцях травы. А таму, што авечкі выгрызаюць траву вельмі нізка, таму яны найбольш і паядаюць заразкаў матыліцы. Гэткі зародак, дастаўшыся ў нутро жывёлы, хутка вызваляецца з свайго панцыра і прайшоўшы жаўцяводам, асядае на вантробе, дасьпявае праз 3–6 тыдняў у сьпелага гліста (рабака) і пачынае сваю сьмерцяносную работу спосабам выжэй ужо апісаным: даводзіць да сьмерці самую жывёлу і апрача таго выдзяляе яечкі, з каторых множыцца новае пакаленьне шкоднікаў.

**Асьцераганьне ад матыліцы.** Кажу асьцераганьне, а не лячэньне, бо спосабы лячэньня матыліцы хоць і ёсьць, то яны йшчэ аднак вельмі дарагія і — не заўсёды скуткоўныя. Спосаб асьцераганьня ад матыліцы ясны з ейнага спосабу жыцьця, які мы толькі што пазналі. Мокрыя пасьбішчы і сена з такіх пасьбішчаў, а так-жа пасьбішчы, на якіх пасецца жывёла хворая на матыліцу — вось рассаднікі хваробы. Асушэньне і звапненьне пасьбішчаў, вылучэньне з агульнай стады жывёлы хворай — вось першы і найважнейшы спосаб проці матыліцы, як заразы.

Для свайго разьвіцьця матыліца канешна патрабуе балотнага смаўжа і калі яго ня знойдзе, дык згіне. Згэтуль навука, што нішчачы балотных смаўжоў, забясьпечваемся і прад матыліцай. Нішчыць-жа смаўжа можа ня толькі чалавек, але і некаторыя жывё-

# Новыя законы аб задоўжаных.

Пад канец мінулага м-ца былі апублікаваны новыя законы ( гл. Dz. U. R. P. № 94, 28.X.34), якімі ўводзяцца палёгкі для задоўжаных як у казённых, так і ў прыватных банках і ўстановах. З палёгкі гэтых законаў могуць карыстаць толькі тыя, хто задоўжыўся прад днём 1 ліпня 1932 г. і атрыманую пазычку ўлажыў у земляробскую гаспадарку. Новыя законы, хоць і вельмі абшырныя, маюць характар толькі агульны, гэтак званы р а м о в ы. Да гэтых законаў маюць быць выдадзены йшчэ міністэрскія выканаўчыя распараджэньні, каторыя бліжэй азначаць: хто, як і на колькі з самых палёгкаў будзе карыстаць.

Выдадзеныя законы названы папольску законамі „oddłużeniowymi“. Гэта ня знача аднак, каб гэтыя законы касавалі даўгі: яны у засадзе даўгоў не касуюць, а пераважна толькі раскладаюць іх на даўжэйшы час і абніжаюць апрацэнтаваньне. Абніжэньне (не касаваньне) самых даўгоў прадбачана законам толькі на той выпадак, калі пазычка была ўзята праз Дзяржаўны Зямельны Банк (Państwowy Bank Rolny) з гэтак званага Абаротнага Фонду Зямельнай Рэформы (Fundusz Obrotowy Reformy Rolnej) і выкарыстана на куплю гаспадаркі, на парцэляцыю, мэліорацыю, асушку грунтоў— прыватную або арганізаваную (Spółki Wodne) і г. д. У гэтых выпадках прадбачыцца абніжка доўгу на адну траціну і нават на палову.

Скасаваньню падлягаюць даўгі, якія Дзяржаўны Зямельны Банк перавядзе з Заставных Лістоў і мэліорацыйных облігацый на Абаротны Фонд Зямельнай Рэформы. Скасаваньні даўгоў праводзе міністр Скарбу. На гэтыя абніжкі і скасаваньні даўгоў казна празначыла 340 мільёнаў зл. Апрача таго Міністр Земляробства мае да распараджэньня суму 30 мілёнаў зл. на „дадатковыя“ скасаваньні даўгоў для тых даўжнікоў, якія, „паміма палёгак вынікаючых з закону, не маглі-б сплаціць даўгоў.“

# Як садзіць сад.

Сягоньня, калі садоўніцтвам пачынаюць займацца ня толькі спэцыялісты-прафэсыяналы (садоўнікі), але і кожны ўласьнік малога куска поля, пытаньне аб тым, як правільна садзіць садовыя дрэвы набірае першараднае вартасьці.Тымбольш, што практыка апошніх гадоў шмат што з дагэтуляшніх правілаў садоўніцтва перакасавала і наказала стасаваць правілы новыя. Аб зьменах гэтых „Самапомач“ ужо пісала*). Сягоньня, хоць і не пара на самае саджэньне, то аднак, карыстаючы з вальнейшага часу, спакойна пагаворым аб гэтым узноў. Адсьвежым у памяці старое, пазнаем новае, каб усё гэта застасаваць у практыцы, як толькі на гэта прыйдзе пара

У першым лепшым падручніку ці часопісі старэйшай пары спаткаемся з радай, што ямы пад пасадку садовых дрэваў трэба капаць загадзя, прынамся паўгоду наперад, што гэтыя ямы павінны быць глыбокія і шырокія, каб маглі свабодна памясьціць у сабе ўсе карэньні, якія павінны быць доўгімі, што самыя дрэўцы павінны мець прынамся 4—5 гадоў і г. д.



Сягоньня на ўсё гэта пагляд зьмяніўся. Людзі робяць усё йнакш, прасьцей, хутчэй і лепш на гэтым выходзяць. Сягоньня яму пад дрэўца капаюць прад самым саджэньнем, сама яма ня бывае шырокай, ані лішне

*) „Самапомач“ № 1, 1932.

---

лы, прыкладам качка і рыба-карп. — З іншых хатніх лекаў проці матыліцы варты ўвагі наступныя: прад выгнаньнем авечкі на пасьбішча падаць ёй крыху солі (7-8 гр.) або напаіць $^1/_2$ проц. саляным растворам. — Лекары-вэтэрынары стасуюць проці матыліцы ўсялякія лекі Апошнім-жа часам вельмі пашырылася ўжываньне пілюляў *distol*'у; даецца ўвосені, па аднэй пілюлі на штуку.

**В. Б—скі.**

---

Усіх даўжнікоў закон дзеліць на тры групы. Да групы А залічваюцца тыя, хто мае ня больш 50 га зямлі, да групы В — хто мае ня больш 500 га і да групы С — хто мае ня больш 1.000 га Найбольшыя палёгкі маюць быць прызнаны для даўжнікоў групы А.

Самыя даўгі дзеляцца на арганізаваныя і прыватныя. Арганізаваныя даўгі ў сваю чаргу бываюць кароткасрочныя і доўгасрочныя.

Справа кароткасрочных даўгоў у розных касах і народных банках будзе аканчальна вырашана выканаўчым распараджэньнем; праўдападобна ў тым сенсе, што разложацца яны на 14 гадоў і апрацэнтуюцца па $4^1/_2$ проц.

Доўгасрочныя даўгі ў банках, перад усім у ўспомненым Банку Зямельным, узятыя прад 1.VII.32 г., а так-жа нясплачаныя на пагашэньне іх раты, працэнты і іншыя нядоімкі, якія паўсталі прад 1.VII 34 г., могуць быць цяпер сконвэртаваныя Банкам аднастаронна на новыя доўгасрочныя пазычкі ў гэтак званых Застаўных Лістох. Аднастароннасьць гэткага сконвэртаваньня палягае на тым, што Банк яго праводзіць сам, ня пытаючыся даўжніка. — Хто даставаў пазычку праз Зямельны Банк з Абаротнага Фонду Зямельнай Рэформы, таму зьмяншэньні і скасаваньні доўгу будуць прызнаны аўтаматычна, без адумыснага стараньня з боку даўжніка.*) Нескасаваная рэшта гэткага доўгу будзе разложана на час ад 5 да 60 гадоў з апрацэнтаваньнем ад 1.I.35 г. па 3 проц. гадавых.

Тым даўжнікам, каторым доўг будзе разложаны на доўгія гады, а яны захацелі-б і маглі-б выплаціцца раней, закон прызнае вялікія ўступкі. І так, хто сплаце свае даўгі ў працягу першых двух гадоў, таму будзе даравана 20 проц. доўгу (за кожныя 100 зл. будзе плаціць толькі 80 зл), а хто сплаціць свой доўг у працягу трох гадоў, таму дару-

*) Дзеля гэтага кожны, хто так ці гэтак задоўжаны ў Дзярж.Зямельным Банку, ува ўласным зразумелым інтарэсе павінен спраўдзіць, ці ягоны доўг паходзіць з сумаў банковых ці з вышэйўспомненага Абаротнага Фонду Зямельнай Рэформы.

глыбокай, карэньні саджанага дрэўца сусім не баяцца прыразаць і то нават вельмі значна, самыя дрэўцы да саджэньня выбіраюць як наймаладзейшыя, 2-3 годнія, абы толькі былі простыя, здаровыя і г. д.

Асобна стаіць пытаньне аб тым, ці садзіць сарты дрэваў высокапенных ці поўпенных ці ўрэшце нізкапенных. Усе важнейшыя знаўцы справы — на беларускіх землях перад усім слава колішняй Расеі праф. Грэбніцкі — выказваюцца за тым, каб у нас садзіць дрэўцы сартоў поўпенных (ад зямлі да кароны 120 см). Такія дрэўцы: лепш прыймаюцца, лягчэй іх даглядаць, больш вытрывалыя на маразы, ня церпяць так ад вятроў, хутчэй і больш родзяць і г. д

Гэта ўвагі агульныя. А цяпер пяройдзем да самага апісаньня саджэньня дрэваў.

Садзіць дрэўца можна ўвесь час, калі дрэўца сьпіць, ня мае лістоў. Увосені перад усім садзяць дрэўцы на глебах сушэйшых і сыпкіх, а вясной — на цяжэйшых і вязкіх. Выбіраючы месца пад садок трэба ведаць, што йгруша не баіцца сухасьці, а сонца патрабуе мець перад усім з паўдзённага боку. Яблыня ня любіць грунтоў багатых на вапну, таксама жвіраватых і камяністых, баіцца лішняга суха. — Дрэўца ад дрэйца садзяць 10—12 мэтраў. Капаючы ямы пад пладовыя дрэўцы трэба верхнюю зямлю адлажыць асобна, каб яе пасьля, як больш перагноеную, палажыць на карэньні. Агульнае правіла саджэньня дрэца — **не садзіць яго за глыбака**. бо гэта згуба для дрэўца; яно і на новым месцы павінна сядзець так глыбака, як сядзела на старым.

Каб усьцерагчыся памылкі і не пасадзіць за глыбака, трэба пастунаць так, як гэта паказана на далучаным абразку. З аднага берагу ямы на другі кладзецца дошка ці лата, але так, каб канцы яе ляжалі на цьвёрдай зямлі, а не на сьвежа насыпанай. Гэта дошка будзе нам паказваць ровень зямлі. Да самага саджэньня патрэбны двое людзей. Адзін з іх спачатку ўсыпе ў яму копчык пульхнай зямлі так высокі, каб дрэйца пастаўленае карэньнем на яго, шыйкай сваёй*) раўнялася з перакладзенай дошкай (латай). Тады ў сярэдзіну гэтага копчыка ўбіваецца роўны калок, а на паўночны бок ад калка ўстаўляецца само дрэўца, якому прад тым падрэжуцца вострым нажом даўжэйшыя карэньні і зраўняюцца ўсе карэньні пакалечаныя. Гэтак прыгатаваныя карэньні дрэўца адзін работнік роўна і найдалей адзін ад другога раскладае па насыпанаму ў яме копчыку і пасьля трымае само дрэўца, а другі асьцярожна прысыпае карэньні пульхнай зямлёй, прад тым асобна адабранай ад зямлі споднай. Падчас прысыпаньня можна дрэўцам асьцярожна ўстрасаць: тады зямля шчыльней запаўнее ўсе шчэліны. Ня можна аднак дрэўца пры гэтым падымаць, бо тады карэньні скомкаюцца. — Яшчэ лепш аднак зляґаецца зямля, калі засыпаючы ёй карэньні паліваем яе вадой. Ня можна толькі гэтага рабіць перад маразамі. Гэтак паліванае дрэўца пасьля ўжо не асядае. Агулам-жа з зляганьнем зямлі трэба больш рахавацца на грунтох цяжэйшых. Падліваньне вадой пры абсыпаньні карэньняў зямлёй асабліва радзіцца пры саджэньні вясной. Калі-ж прысыпаная зямля не паліваецца, дык яе трэба старанна ўтоптываць; ня столькі каля самага пня, колькі над канцамі карэньняў пасаджанага дрэўца.

*) Шыйка гэта месца, гдзе пачынаюцца карэньні.

---

ецца 10 проц. доўгу. Гэткая ўступка завецца боніфікатай.

Аб даўгох з прыватнай гіпотэкі тут гаварыць ня будзем, бо гэты выпадак у сялянскіх варунках надта рэдкі, а нават і сусім блізу немагчымы.

Даўгі з прыватных кароткасрочных пазычак, паводле новага закону і з моцы самага закону — бяз сумысных стараньняў — раскладаюцца на 28 паўгадовых ратаў, платных кожнага 1.IV і 1.X. Датыча гэта землеробаў групы А і В, прыватныя даўгі каторых павінны былі ўжо быць сплачаны, або час сплаты каторых выпадае прад 1.IV.35 г. Апрацэнтаваньне гэтакіх даўгоў вызначана па 3 проц. гадавых, пачынаючы ўжо ад 1.XI. 34 г. Хто, маючы гэтак разложаны свой доўг на 14 гадоў, сплаціць яго ў працягу трох гадоў, той кожнай сотняй злотаў сплачвае 150 зл. доўгу. — Калі аднак даўжнік не заплаціць дзьвюх гэтак разложаных ратаў адна за другой, дык крэдытор мае права ўвесь доўг спагнаць за адным разам і зараз-жа, пры помачы каморніка.

Разьемчыя Управы (Urząd Rozjemczy), на падставе новага закону, у працягу трох гадоў могуць зьмяншаць сямейныя сплаты, калі падзел быў зроблены у міжчасе ад 1.I.26 г. да 1.VII.32 г. Гэтыя-ж Управы могуць таксама зьмяншаць і купную цану рэшты зямлі.

Гэтулькі — згушчана — можна сказаць аб пастановах новага закону. Аб выканаўчых распараджэньнях да яго напішам наступным разам. Зазначым тут толькі засьцярогу ўрадавых кругоў, што „палёгкі“ новага закону маюць быць апошнімі і сялянства ня можа ўжо нічога больш для сябе ад ураду спадзявацца, а толькі сплачываць назначаныя яму часьці усякіх даўгоў. —

Ня ўходзім у ацэнку, слушнасьці гэткай засьцярогі. Ня можам аднак устрымацца ад запытаньня: а што будзе, як з згалеўшай вёскі ня ўдасца выціснуць і адзінага граша?

р.



Абсыпаўшы карэньні лепшай зямлёй, прысыпаем рэшту ямы зямлёй горшай, а з зямлі, што ў яме не зьмясьцілася, пры восеньскім саджэньні насыпаем каля дрэўца копчык, а пры вясьняным —зямлю гэту рассыпаем ў форме міскі. Таксама ўвосені насыпаны копчык у найбліжэйшую вясну разгортываем у форме тэй-жа міскі.—Апошняй урэшце чыннасьцю пры саджэньні дрэўца ёсьць вольнае прывязаньне яго да калка саломяным перавяслам, скручаным у форме васьмёркі (8).

Дагляд у першым годзе пасьля пасадкі дрэўца мае за заданьне перад усім дасьледзіць, ці гэта дрэўца не пасаджана часам за глыбака і калі-б аказалася што так, дык трэба яго абавязкава нанова перасадзіць, хоцьбы яно на дадзеным месцы расло ўжо нават і пару гадоў. Другой важнай справай у першым годзе ёсьць паліваньне: не дзеля таго, каб дрэўца карыстала з гэтай вады як стравы, а каб прысьпяшыць зрастаньне карэньняў з глебай. Патрэбна гэта дрэўцу на тое, каб магло выпусьціць валасковыя карэньні, каторымі яна і сьсе з глебы ўсякую страву. Пакуль гэта зрастаньне ня станецца, трэба пад дрэўца падліваць па вядры вады кожнага вечара.

На зіму карэньні новапасаджанага дрэўца абкладаюцца пластом або зямлі(40—50см), або гною. **В. Р.**

## У садку ўвосені.

*Барацьба з рабакамі — Абарона прад зайцамі, зімовым сонцам і маразамі.*

Восень у садку гэта пара не адпачынку, але стараннага прыгатаваньня пладовага дрэва да будучага ўраджаю. Дзеля гэтага трэба гэта дрэва абараніць ад тых шкоднікаў, якія на ім зімуюць да будучага году, а таксама ад тых вонкавых небясьпекаў, якія праз зіму загражаюць цэласьці і жывучасьці дрэва.

З існуючых на дрэве шкоднікаў найгоршыя гэта зародкі ўсялякіх рабакоў, якія зімуюць абкручаныя павучыньнем у розных шчэлінах палопанай кары, у гнёздах паміж вецьцем і асабліва на старых затрыманых на дрэве лістох. Гэтыя шкоднікі вельмі дорага каштуюць тым гаспадаром садоў, каторыя з няўвагі, неразуменьня ці з звычайнага нядбальства не зварачваюць на гэту небясьпеку належнай увагі і пазваляюць зародкам рабакоў спакойна перазімаваць да вясны: вясной-жа, калі рабакі распаўзуцца па цэлым дрэве, не пара ўжо іх нішчыць. Рабіць гэта трэба цяпер ужо, увосені і праз цэлую зіму. Ані на дрэве, ані пад дрэвам у садку ня сьмее астацца да вясны ніводзін стары лісток. Само дрэва апрача таго трэба старанна ачысьціць ад усякага на ім моху, „грыбоў“, патрэсканай кары, бо ўсюды тут гнезьдзяцца шкоднікі саду, якія пасьля аб'ядаюць усё лісьцё на дрэве да чыста. І лісьцё і кару і ўсё непатрэбнае з дрэва трэба зьбіраць на посьцелкі і пасьля ўсё да чыста спаліць; у гной гэтага кідаць ня можна, бо гэткім пастунаньнем мы шкоднікаў ня нішчылі-б, а толькі разводзілі-б. Дык выразна яшчэ раз зазначаю, што ўсё сабранае цяпер у садку трэба спаліць.

Наступнай справай ёсьць забясьпечаньне садовых дрэваў ад зайцаў і іншых грызуноў, якія нападаюць асабліва на маладое дрэва: раз дзеля таго, што для іх кара маладога дрэўца гэта вельмі пажаданы прысмак, а акрамя таго, сама прырода грызуноў вымагае, каб нешта стала грызьці і гэтым сьціраць стала растучыя зубы. Каб забясьпечыць дрэўца ад грызуноў, трэба яго абмазаць нечым такім, што грызуну праціўна, напрыклад зьялчэлым салам, або мешанінай жоўці, азафэтіды (купляецца ў аптэцы) і разваранага шальбабону. Мазаньне гэтымі мяшанкамі аднак не заўсёды бывае пэўным забесьпячэньнем. Лепш абкруціць дрэўца яловымі лапкамі ці ялаўцом; саломай абкручываць ня радзяць, бо тады ў ёй загнежджываюцца мышы. Абкручваньне гэткае мае йшчэ і тую выгоду, што бароніць дрэўца ад маразоў, аб чым будзе мова ніжэй.

Зімавое сонца так-жа небясьпечна садоваму дрэву дзеля таго, што яно ўдзень разагравае кару на дрэве з паўдзённага боку, а начны мароз пасьля гэтага тую-ж кару адмаражвае. У рэзультаце цэлыя бакі дрэва — ў лепшым выпадку асобныя латы — становяцца голымі ад кары і само дрэва, хоць і не зараз, але замірае. Каб да гэтага не дапусьціць, трэба перад усім дрэва абараніць ад дзеннага ўзімку і вясной награваньня. Дзеля гэтага дрэўца або абкручваюць лапкамі яліны, або — яшчэ лепш — яго беляць мешанінай вапны, гліны і каравячага калу. Дрэва пабеленае самай толькі вапнай скора ўзноў адбельваецца, бо сама вапна лёгка з дрэва змываецца. Бяліць дрэва — прад тым старанна яго ачысьціўшы ад моху, палопанай кары і ўсякіх у іх зародкаў розных шкоднікаў — трэба ўжо на самым пачатку зімы, а пад вясну гэта бяленьне паўтараецца. Беліцца як камель дрэва, так і грубейшае вецьце.

Урэшце важнай справай ёсьць ратаваньне дрэва пашкоджанага зайцамі і маразамі. Справа гэта наагул не такая ўжо цяжкая; але магчымая яна толькі пры шкодах меншых. Большыя шкоды адрабіць цяжка, а часта і зусім немагчыма. Лягчэй дзеля таго гэтых шкодаў сьцерагчыся, як іх пасьля лячыць.

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

# ГАСПАДАРЧАЯ ХРОНІКА.

Чаму ў Польшчы дарагія тэлефоны? Тэлефон у Польшчы ўважаецца за прадмет лішняй роскашы, даступны для лічаных толькі адзінак і ўстановаў, што могуць за яго аплачваць па 240—360 зл. у год. Таму і сетка тэлефонаў у Польшчы вельмі рэдкая. Тымчасам у іншых, нават недалёкіх, краёх тэлефон лічыцца прадметам першай патрэбы; у такой напр. Фінляндыі тэлефон знаходзіцца ў кожнай блізу хаце; ня толькі ў гарадох, але і перад усім у земляробскіх гаспадарках, якія хочаць і патрабуюць быць у сталай лучнасьці з рынкам збыту сваіх прадуктаў — а для гэтага тэлефон аддае найлепшыя ўслугі.

Дарагоўля тэлефонаў у Польшчы тлумачыцца тым, што тут на тэлефоны ўстаноўлены манаполь, які ад 1927 году здадзены ў арэнду мяшанай акцыйнай супалцы, 49 проц. капіталаў каторай належаць швэдзкім капіталістычным фірмам. Гэта супалка манапольным становішчам сваім карыстаецца вельмі спрытна, бо за 7 гадоў свайго існаваньня патрапіла зарабіць ужо цэлых 24 (дваццаць чатыры) мільёны злотаў. Як на крызысовыя часы — „нішто сабе" заработак.

Конкурэнцыя з самагоншчыкамі? У Польшчы спадзяюцца новага закону, які мае загусьціць сетку корчмаў, у каторых будуць прадавацца розныя алькагольныя напіткі, прычым сама моц алькагольных напіткаў (водкі) мае быць паднята з 45 на 55⁰. — Падаючы гэту вестку, адна з польскіх газэт дадае ад сябе наступную зацемку: „Варта застанавіцца, якія насьледкі гэтай „палёгкі" у антыалькагольным законе будуць для вёскі? Бесьпярэчна, толькі ад'ёмныя. Каб ня было там карчмы, менш было-б прычынаў да п'янства. Менш было-б моральнай разьвязласьці і ўсякага лайдацтва, маючага свой пачатак у водцы. Распашырэньне корчмаў па вёсках створыць спасобнасьць да папойкаў. Для грамадзкага разьвіцьця вёскі... карчма была і ёсьць найбольшым ворагам. Незабытым прыкладам ёсьць даўная Галічына. У кожнай вёсцы была карчма, некалькі крыміналаў на павет і няшмат дрэнных школ. А рэзультаты? Нэндза і страшная цемната. Сьведамая вёска, пры помачы сваіх арганізацыяй, у першую чаргу павінна аб'явіць вайну п'янству" (Przew. Gosp. Nr.44).

Мы ад сябе да гэтага можам дадаць, што пашырэньне корчмаў на беларускай вёсцы можа і карысна польскай казьне, але для вёскі гэта згуба. Нашай вёсцы патрэбны перад усім свае школы і свае культурна-прасьветныя і гаспадарчыя арганізацыі. З п'янствам-жа мусім і будзем змагацца з усіх сіл, бо гэта наш вораг.

10 проц. да падатку ад зямлі і ад абароту ў промысьле. Ад 1 кастрычніка сёл. прадоўжана зьбіраньне 10 проц. дадатку да зямельнага і прамысловага падаткаў на адзін год. Дадатак гэты ў земляробстве будзе зьбірацца пры аплаце другой раты падатку за 1934 г. і першай раты за 1935 г.; у промысьле гэты дадатак накладаецца на абарот зроблены у міжчасе ад 1.X.34 да 30 IX.35.

Колькі ў Польшчы жывога інвэнтара (усякай жывёлы). Паводле тымчасовых падлічэньняў перапісі зробленай гмінамі на абшары цэлай Польшчы, лічба ўсей жывёлы дня 30 чэрвеня сёлета прадстаўлялася ў тысячах гэтак (у дужках пададзены лічбы з 1933 г.) : коні — 3.760, (3.773), быдла — 9.237 (8.985), сьвіні — 7.062 (5.753), авечкі — 2.549 (2.556), козы — 320 (278). Лічбы гэтыя паказваюць, што наагул лічбовы стан жывёлагадоўлі за апошні год не зьмяніўся; толькі лік сьвіней падняўся на 23 проц. і лік козаў — на 15 проц.— Шкода, што ня маем статыстыкі датычачай нашых зямель асобна — а было-б гэта цікава.

Ня можна лавіць рыбы. Пачаўся ўжо восеньскі час забароны лоўлі некаторых сартоў рыбы. І так: ласося і селявы ня вольна лавіць ад 15 кастрычніка да 31 сьнежня, пструга— ад 15 кастрычніка да 15 сьнежня, ракоў самцоў — ад 15 кастрычніка да 15 сакавіка, ракоў самак — ад 15 кастрычніка да 31 ліпня.

Восеньскія манэўры або палацовая рэвалюцыя ў Віленскай Земляробскай Палаце. Земляробская Палата ў Вільні, якая мае быць прадстаўніцтвам усяго мясцовага земляробства, з самага пачатку неяк ня трапіла на ўласьцівы шлях і замест аб плоднай працы, грамадзянства даведваецца стуль аб бязупынных сварках абшарнікаў з „маларольнымі" асаднікамі. Дагэтуль там верх трымалі абшарнікі, але цяпер пашла мода ў іншым кірунку. Абшарнікам з-гары кіўнулі быць ціха. У рэзультаце гэтага прэзыдыюм Палаты ўступіў, а ваяводзтва падабрала ўжо прэзыдыюм новы, у складзе—праўду кажучы — мала зьмененым: „выступілі" толькі тры дагэтуляшнія сябры, з якіх толькі адзін абшарнік, а два — малазямельныя сяляне. На мейсца-ж „уступіўшых," ваяводзтва ўвяло ў прэзыдыюм Палаты трох сяброў новых — усіх трох фальварачных асаднікаў: пасла Камінскага — з Лідчыны, Ч. Дэмбіцкага — з Навагрудчыны і Э. Таўрогінскага з Віленшчыны.— Значыць і тут асаднікі прызнаны як „соль зямлі". Новай Радзе Палаты патроную рэктар В. Станевіч. Без тлумачэньняў. Куды ўсё гэта кіруецца — ясна кожнаму.

---

Выгрызенае зайцам месца кары трэба гладка вырэзаць вострым нажом, замазаць ушчаповай масьцю і завязаць чыстай палатніной. Мясцы кары адмарожаныя трэба таксама выгладзіць аж да здаровага „мяса", пасьля пацягнуць алейнай хварбай (пакост з дамешкай парашку мінія), каб там не завяліся розныя шкодныя дробнатворы і завязаць старымі мяшкамі, посьцелкамі ці нечым падобным.

*В. Р.*

# Наша пошта.

М. Б—му: Гэныя шпары ў будынках трэба пазамазываць замазкай зробленай з вапны, мукі і пакосту: 3 меркі сьвежай гашанай вапны, 2 меркі жытняй мукі і 2 меркі пакосту. Усё гэта зьмяшаць з пакуламі і пазатыкаць Гэткая замазка ані патрэскае ані павылушчыцца.

А. Ж—чу у К—ы: Кірунак равоў крэхту павінен ісьці з усходу на захад, каб зімныя вятры апіраліся на найменшую плошчу.

В. В—му ў М—х: Трудна даць адказ, чаму Ваша карова за раз не аплодніцца. Апрача прычын заразных, можа стаяць на перашкодзе квасовасьць радзільных органаў самай каровы. На ўсякі выпадак папрабуйце прамываць карове похву 2 проц. растворам ачышчанай соды, якую дастанеце ў аптэчным складзе. На 5 літраў пераваранай вады даецца 100 грамаў соды і прамываецца з звычайнай леватывы.

Малачарні ў К—ках. Аб лёдзе трэба думаць ужо цяпер. Калі ня можаце сабе тымчасам пазволіць на збудаваньне асобнай лядоўні, можаце складаць лёд (толькі шчыльна, найлепш ў марозны дзень, заліваючы гарачай вадой) у капцы і наверху зямлі. З бакоў і з верху прыкрывайце такі капец пілавінамі і саломай. Каб гэта прыкрыўка не распаўзалася, трэба яе абгарадзіць парканам з дошак. Апошнім часам гэткія лядоўні вельмі ў модзе і іх асабліва хваляць там, дзе ёсьць блізка падземная вада.

М. Ів—му у Л: калі Ваш спадак па бацьках не перавышае 10.000 зл., дык падатку ад яго плаціць ня будзеце

а. Б. П. у Б., Кал. В. у В., Родзку М., Мір. У. атрымалі, дзякуем, высылаем.

Пяр.—ка ў Л.: Атрымалі. Часопісь высылаем. Кніжкі можам выслаць толькі атрымаўшы грошы. Будуць каштаваць 5,-зл. (з перасылкай).

К—вы „Поўня" і „Самапомач": адказы шлём асобным пісьмом.

